Чытайце: ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА · ЗАЧАРАВАНЫ СВЕТ СТАНІСЛАВА АРЦІМОВІЧА · ПОМАЧ КАМУ І... САБЕ

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 47 (508) | ГОД X | 21 ЛІСТАПАДА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

25 лютага 1966 г. споўніцца 10 год з дня заснавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства. За 10 год сваёй дзейнасці наша арганізацыя развілася, умацавалася і пакінула прыкметны след на грамадска - культурнай ніве беларускага асяроддзя. Наша дзейнасць і нашы дасягненні былі магчымы дзякуючы ўмовам, якія стварыла нам народная дзяржава, і ўсебаковай падтрымцы нашай партыі і ўрада.

Прымаючы пад увагу факт, што дзейнасць БГКТ на бліжэйшы перыяд супадае з такімі знамянальнымі датамі як 40-годдзе Грамады, 10-годдзе і V-ты юбілейны з'езд нашай арганізацыі, ГП БГКТ пастанавіла падпарадкаваць гэтым падзеям галоўныя напрамкі сваёй працы, трактуючы яе як уклад у святкаванне 1000-годдзя нашай дзяржавы.

У сувязі з гэтым Прэзідыум ГП БГКТ, па прапанове кастрычніцкага Пленума ГП БГКТ, апрацавала наступную праграму святкавання Х-тай гадавіны нашага таварыства:

1. 26 і 27 лютага 1966 г. правесці юбілейны з'езд БГКТ. На ім падвесці вынікі 10-цігадовай дзейнасці таварыства і выпрацаваць напрамкі далейшай працы.

2. Не занядбоўваючы існуючых дагэтуль статутовых форм дзейнасці, шукаць новых арганізацыйных прынцыпаў развіцця БГКТ. Між іншым, гэтым справам прысвяціць перадз'ездаўскую дыскусію ў гуртках і на старонках «Нівы».

## ПРАГРАМА святкавання Х-годдзя БГКТ

3. Урачыста адзначыць гадавіны заснавання аддзелаў БГКТ. Між іншым, ім павінны быць прысвечаны традыцыйныя фестыны і агляды мастацкай самадзейнасці.

4. Правесці цэнтральны агляд мастацкай самадзейнасці.

5. Выкарыстоўваць існуючыя ў тэрэне цэнтры культурнай працы, у першую чаргу клубакавярні, уключаючыся з праблематыкай нашага таварыства.

6. Супольна з ваяводскімі ўстановамі і арганізацыямі, якія займаюцца культурна-асветнай дзейнасцю, правесці на Беласточчыне Тыдзень беларускай культуры.

7. Правесці навуковую сесію, прысвечаную жыццю беларусаў у ПНР.

8. Супольна з белавежскім ГС адкрыць у Белавежы грамадскі музей матэрыяльнай культуры беларускага рэгіёна Беласточчыны.

9. Арганізаваць аб'язную выстаўку «Х год БГКТ».

10. «Беларускі каляндар» на 1966 г. прысвяціць Х-цігоддзю БГКТ.

11. Выдаць літаратурны альманах, змяшчаючы ў ім найлепшыя творы членаў літаратурна - мастацкага аб'яднання «Белавежа», напісаныя імі на працягу 10-цігоддзя.

12. Падрыхтаваць да друку зборнік беларускага фальклору Беласточчыны.

13. Выдаць плакат «Х год БГКТ».

14. Выпусціць друкам сценгазету «Х год БГКТ».

15. Арганізаваць сустрэчы з насельніцтвам членаў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа», прысвечаныя нашым літаратурным дасягненням.

16. Правесці ў гуртках БГКТ сходы, прысвечаныя дзесяцігадовым дасягненням таварыства.

Святкаванне Х-цігоддзя БГКТ павінна актывізаваць усіх членаў нашай арганізацыі да яшчэ больш ахвярнай працы на карысць усяго грамадства, павінна спрыяць яшчэ большаму ўключэнню беларускага насельніцтва ў пабудову сацыялізма ў нашай краіне — народнай Польшчы.

**ПРЭЗІДЫУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**З нагоды Дня настаўніка Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя «Нівы» шлюць усім нашым настаўнікам самыя сардэчныя віншаванні і пажаданні поспехаў у працы і шчасця ў асабістым жыцці.**

## НАСТАЎНІЦЫ

Каля ганка дагараюць клёны,
Падаюць барвовыя лісты,
Ты чакаеш стука паштальёна
І глядзіш у вочы чарнаты.

Спытак на стале ляжыць. Аловак,
Што нядаўна па радках хадзіў...
Слухаеш, як вецер вербы ломіць,
Бачыш, як плыве па небе маладзік.

А лісты? Лістоў няма і сёння,
Зноў дажджлівай ноччу ты адна.
У кляновых пасмах вецер сонны
Нешта шэпча ціха ля акна.

Любая, прабач, мы пішам мала,
Але паўтараем зноў і зноў.
Што душы тваёй пачуцці, мары
Нам са словамі ўліліся ў кроў.

У памяці твой воблік не сатрэцца.
Мы твайго юнацтва ўзнялі сцяг.
Частачка душы тваёй у сэрцах
Нас вядзе дарогаю жыцця.

І ў любві клянуся гэтым вершам
Ён ляціць праз восеньскую ноч
Да хаціны, дзе гамоняць вербы,
Дзе да ранку свеціцца акно.

С. Законнікаў



# НАСТАЎНІКІ Ў АСЯРОДДЗІ

Хто б гэта ні быў з нас — кожны са словам «Настаўнік» спалучае самыя дарагія, самыя цёплыя адчуванні і ўспаміны, як аб тых, хто вывеў нас на шырокі шлях жыцця. Але са словам «Настаўнік» вяжуцца не толькі ўрокі мовы ці біялогіі, гісторыі ці матэматыкі. Іх бескарыслівыя намаганні ўпрыгожваюць наша жыццё. Дзякуючы ім будуюцца грамадскім чынам новыя школы, святліцы, працуюць універсітэты для бацькоў, сотні мастацкіх калектываў. Вось адны з тысяч на фоне сваёй «не школьнай» працы.

### НАСТАЎНІК І ЯГО ШКОЛА

Гісторыя настаўніцкай працы Уладзіміра Антанюка, кіраўніка школы ў Дзянісках, не надта доўгая. Але імкненні гэтага маладога педагога замашыстыя, вялікія.

Настаўніцкую працу пачынае ў новаарганізаванай школе ў Стрыках. Разам з бацькамі збівае школьныя парты, арганізуе навучанне беларускай мовы ў гэтай жа школе. Але не пакідае думкі аб роднай вёсцы. Замяняецца працай з адной з настаўніц, каб памагчы сваёй вёсцы арганізаваць сямікласную школу, паколькі былі тут толькі класы І — IV. Асветныя ўлады ўспрыймаюць матывіроўку і закладаюць сямігодку.

Але на гэтым не канец. Школа магла мець перспектывы толькі тады, калі б быў уласны будынак. А ў Дзяніскаx яго не было. У Ул. Антанюка паўстае думка — грамадскім чынам пабудаваць школу. 13 жніўня 1961 года адбываецца сход бацькоў. Бацькі горача падтрымоўваюць ініцыятыву «свайго» кіраўніка. Дэкларуюць уплаціць па 500 зл. Антанюк «куе жалеза пака гарачае». У гэтым жа дню інкасуе 27 тысяч злотых (усяго сабралі 50.310). За гэтыя грошы купляюць дзеравяны будынак, які на працягу некалькіх дзён вырастае на падмурку.

Грамадскіх грошай на ўсё не хопіць. Дзеля гэтага кіраўнік шукае розных спосабаў. Каб увесці электрычны ток, патрэбна дакументацыя, а на яе трэба многа грошай. Валодзя піша пісьмо да электрычнага прадпрыемства ў Бельску. Мала таго, сам туды едзе і інфармуе ў чым справа. Праз некалькі тыдняў мае дакументацыю, якую зрабілі бясплатна, грамадскім чынам. І ўжо ёсць у Дзяніскаx уласны школьны будынак з пяцццю школьнымі памяшканнямі.

Але не абмяжоўваецца толькі да спраў школьных. Вось адна са спраў, якой лічыў заняцца:

— Свайго часу электраманцёры з Бельска закладалі т.зв. «тасьмаванне» (каб прыключаючы правады электрычнага матора малацілкі не нішчыць лініі). За гэта гаспадары ўплацілі па 40 зл. У гэтым годзе іншае прадпрыемства (з Беластока) праводзіла капітальны рамонт лініі і залажылі новыя правады. Прыехаўшыя з Бельска манцёры зноў сказалі плаціць. Я даведаўся, што гэта не так, і пачаў інтэрвеніраваць. Аказалася, што хацелі надуць гаспадароў.

(Працяг на стар. 3)



Настаўніцкая студыя ў Беластоку. фота А. Казёл



ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 47 (408) 21 лістапада 1965 г.




# ЛІСТАПАД

Лісце страсае вецер з дрэў
на пожні, на дарогі.
Калыша ён у вецці спеў,
а ў спеве жалю многа.

Але дарма: не стане ён
ля нашага парога.
Ўзялі мы з адцвітання плён,
а ў ім уцехі многа.

**Уладзімір Дубоўка**

ДЗЕЦІ СКЛАДАЮЦЬ СВАІМ НАСТАЎНІКАМ



## Хто больш уважлівы?

Надышла восень з халадамі і дажджамі. Не заўсёды выбежыш на вуліцу пагуляць у такое надвор'е. Можна і за сталом правесці вольны час.

Перад вамі — таблічка. На ёй — 50 лікаў.

Пакажыце ўдзельнікам гульні лікі па парадку: 1, 2, 3, 4... аж да 50.

Гуляць могуць двое-трое. Выйграе той, хто хутчэй адшукае ўсе лікі.



Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka". BZGraf. C-1

АД ЖАЛЕЙКІ ДА АРФЫ

# КАБ ДРЭВЫ СПЯВАЛІ

Усім народам свету здаўна вядомы самы просты і мілы музычны інструмент жалейка. Толькі называюць яго па-рознаму: у нас у Беларусі — дудка, у латышоў — флейтаташтаць, у грузін — саламуры, малдаване завуць яго флейтачка-флуэр. Якія прыгожыя трэлі высвістваюць на ёй — проста заслухаешся. І ўсюды людзі выразаюць жалейку з трысняту, бярозы, чароту.

А ражок? Хто можа палічыць, колькі яму тысяч год? Калісьці яго рабілі з рога жывёліны і карысталіся ім для ўсялякіх умоўных сігналаў у час вайны ці на паляванні, заганяючы звера. І цяпер яшчэ ражок можна сустрэць у многіх народаў. Так, у заходніх абласцях Украіны ён набыў выгляд доўгай трубы, якую называюць «трэмбіта». Звычайна яна служыць пастухам. Калі яму трэба сабраць свой статак, ён гучна трубіць у трубу. Гукі яе чуваць далёка ў гарах, на пашы.

Маленькі галасісты ражок паклаў пачатак цэламу шэрагу медных духавых інструментаў, без якіх не абыходзіцца сучасны аркестр, — трубы, фанфары, трамбоны. Вядома, будова іх больш складаная, чым у простага ражка, але ўсе яны бясспрэчна, яго патомкі.

Ад простай чаротнай дудачкі паходзяць драўляныя інструменты: флейта, габой, фагон, кларнет. Цяпер іх робяць не толькі з дрэва, але і пластмасы, з металу. Прыгожы, бліскучы габой з мноствам металічных кнопак-клапанаў, цяпер не падобны на дудачку, але калі ў сярэдзіне ў яго не будзе язычка — тоненькай чаротавай пласцінкі, — габой не зможа гучаць.





Наогул, ніводны музычны інструмент не нарадзіўся на свет, як гаворыцца, «без роду, без племя». У кожнага свая доўгая радаслоўная, якая бярэ пачатак недзе далёка ў глыбіні тысячагоддзяў.

Гісторыкі тавораць, што ўсе музычныя інструменты, у якіх гучыць напятая струна, паходзяць ад цецівы паляўнічага лука. Арфа, напрыклад, або гітара, скрыпка. Як гэта магло адбыцца? Давайце ўявім сабе: збіраючыся на паляванне старажытны чалавек кожны раз старанна падцягваў цеціву на луку і прабаваў пальцам, ці добра яна нацягнута. Пры гэтым ён заўважыў, што яна прыемна гучыць. Тады чалавек падумаў: «А што атрымаецца, калі нацягнуць на лук не адну, а дзве або тры цецівы?» Аказалася, што ўсе тры цецівы гучаць па-рознаму: кароткая — тоненька, даўжэйшая — басавіта, а трэцяя — самая доўгая — гучыць яшчэ ніжэй. І чым мацней ён нацягваў кожную з іх, тым вышэй атрымліваўся гук. Адсюль не так ужо цяжка было дадумацца і да вынаходства арфы.

Калі ж людзі пачалі рабіць інструменты спецыяльна для музыкі? Даўно — прыблізна пяць-шэсць тысяч год назад. Першыя струнныя інструменты былі падобны на арфу або ліру. Егіпецкая арфа нагадвала вялікую дугу, струны яе былі зроблены з пальмавага валакна і гучалі вельмі прыемна.



# Сябры



Міхась і Толік жылі на адной вуліцы, але не ведалі адзін аднаго. Пазнаёміліся яны першага верасня, калі пайшлі вучыцца ў школу. Пазнаёміліся і пасябравалі. Цяпер яны ходзяць у першы «А» клас, сядзяць разам на парце і адзін без другога не могуць і дня пражыць. Усё у іх агульнае — і снеданне, і алоўкі, і пластылін, і цацкі. Усім дзеляцца, што маюць.

Калі мама выпраўляючы Міхася ў школу, дае яму снеданне, ён заўсёды пытае:

— А пра Толіка ты не забылася?

— Не, не забылася, не забылася, — усміхаецца мама.

Тое самае робіць і Толік.

— Міхась і Толік — добрыя сябры — кажа настаўніца, і ўсе бачаць, што Толік і Міхась гатовы адзін за аднаго ў агонь пайсці.

Аднаго разу Толік не прыйшоў у школу. Міхась сядзеў на сваёй парце сумны. Адзін урок прайшоў — няма Толіка, другі прайшоў — няма, а пасля трэцяга Міхась не вытрымаў, пацiху сабраў свае кніжкі і сшыткі, выйшаў са школы і пабег да сябра.







— А дзе Міхась? — запытала настаўніца.

Паглядзелі дзеці: сапраўды няма Міхася, парта пустая.

— Можа да Толіка пабег, — сказаў нехта з вучняў.

Настаўніца толькі дакорліва паківала галавой. Хіба ж можна без дазволу пакідаць школу?

Прыйшоў Міхась да Толіка, а той ляжыць у пасцелі. У яго завязана горла і галава баліць.

— Ну, сынок, давай піць лякарства, — кажа Толікава мама.

— Зноў гэту гаркату, — скрывіўся Толік.

— Пі, пі, сынок, а то доўга будзеш хварэць, і школа па табе засумуе.

Толік і сам сумуе па школе. Адзін дзень ляжыць у ложку, а ўжо надакучыла. Цікава ў школе, весела.

— Давай вып'ем гэта горкае лякарства разам: палову я, а палову ты, — шэпча Міхась, калі Толікава мама, наліўшы ў шкляначку нейкай жоўтай вадкасці, адыходзіць ад ложка.

— Давай, — згаджаецца Толік.

Лякарства і сапраўды вельмі горкае, але Міхась усё ж п'е.

— Ну, а цяпер ты, — падае ён шкляначку сябру. — Яно не такое ўжо горкае. Пі ды папраўляйся хутчэй.

Толік крывіцца, заплюшчвае вочы і падносіць да рота шкляначку. Лякарства на гэты раз здаецца яму менш горкім. Ён здзіўлена глядзіць на Міхася, усміхаецца і гаворыць:

— Праўду кажа мама, што і скарыначка чорнага хлеба здаецца смачнай, калі ясі яе з сябрам. Разам усё смачней. Можа я таму і захварэў, што ўчора ўсю порцыю марожанага з'еў адзін, без цябе, — прызнаўся Толік.





# Дух спаборніцтва

Настаўнік — гэта наш старшы сябра. На колькі ж цікавейшае робіцца наша вучнёўскае жыццё, калі за справу бярэцца настаўнік. Тады скрыжоўваюцца дзіцячыя імкненні, задумы з вопытам і жыццёвай практыкай нашага старэйшага таварыша.

Вось для прыкладу школа ў Залуках (Беластоцкі павет). Тут настаўнікі падказалі дзецям ідэю спаборніцтва, і яно захапіла ўсіх ад малога да вялікага.

— Школа жыве духам спаборніцтва, — гаворыць кіраўнік школы Люцыян Нятупскі. Галоўнае спаборніцтва ў школе — гэта пастаянны конкурс на першынства класа па школе. Кожны тыдзень на спецыяльнай дошцы адзначаюцца пункты кожнаму класу за паспяховасць у навуцы, за прачытаныя кніжкі, за дысцыпліну, за рэгулярную прысутнасць на занятках, за чысціню. Пасля падсумавання пунктаў выяўляецца, які клас быў лепшы. За першынства змагаюцца класы разам са сваімі выхавацелямі — настаўнікамі.

Дух спаборніцтва трымаецца пад кожнай задумай дзяцей і настаўнікаў у Залуках. Калі ў кастручніку ўсёй школай хадзілі ў ПГР капаць бульбу, дык кожны клас так стараўся, што настаўнікі аж пабойваліся, каб хоць дзеці вельмі моцна не пазамучваліся. Капалі бульбу ад 8 гадзіны раніцы, усё подбегам, каб толькі хутка і чыста, і нават а 4 гадзіне пасля абеду настаўнікі ледзь адарвалі дзяцей ад працы. Дзякуючы такой стараннасці і спаборніцтву, школа выкапала 33 тоны бульбы, зарабіўшы за гэта 1650 зл. Зробленыя грошы прызначаны на паездку ў Беласток. Апрача таго, дзеці ў той



жа дзень зрабілі экскурсію па ПГР, бачылі шмат цікавых рэчаў. А найлепш спадабаліся цяляты.

Дзецям спадабалася разам працаваць, і тады ж яны вырашылі ўласнымі сіламі пабудаваць прыродна - геаграфічную пляцоўку з нагляднымі дапаможнікамі па геаграфіі, матэматыцы і жывой прыродзе.

У далейшых планах школы цяпліца на раннюю гародніну і новыя формы вырошчвання розных культур (напр. памідоры пад спецыяльным прыкрыццем і інш.).

На няшчасны выпадак (калі раптам у каго-небудзь адарвецца гузік) у школе ёсць куток першай дапамогі. Там заўсёды можна знайсці іголку, ножанкі, ніткі. Калі ўжо гігіена займае важнае месца ў спаборніцтве на першынства школы, нельга ж нават паказацца ў школьным калідоры без гузіка ці з абарваным каўнерыкам!

Нядаўна ў школе пачала выходзіць новая насценгазета «Młody obywatel». Яе робіць рэдакцыйная калегія з трох чалавек. Апрача цікавых вестак з усяго свету, шмат месца ў газетцы прысвячаецца школьным надзённым справам. Асабліва цікавыя сатырычныя малюнкі, якія вельмі ўдала робіць адзін з членаў рэдкалегіі. (Дарэчы, «Зорка» спадзяваецца, што здольныя мастакі з Залук, ды і не толькі з Залук, будуць прысылаць свае сатырычныя малюнкі да «Зоркі». Няхай іншыя дзеці пабачаць).

І душой усіх гэтых цікавых спраў. у Залуках з'яўляюцца настаўнікі разам з кіраўнікoм школы Люцыянам Нятупскім.

Настаўнікі захоплены гэтымі справамі так сама моцна, як і выхаванцы.

І сёння, напярэдадні Дня настаўніка, давайце ж усе разам, дзеці, скажам сваім дарагім старэйшым сябрам — настаўнікам ад шчырага сэрца вялікае — найвялікшае ДЗЯКУЙ за ўсё тое, што яны для нас зрабілі.

Дзякуй Вам, дарагія!

«Зорка»

На здымку бачым новую школу ў Залуках, а на пярэднім плане прыродна-геаграфічная пляцоўка ў першай стадыі будовы.

## Добры дзяцел

(казка)

Ці ведаеце вы, што калісьці ў лесе было зусім ціха? Птушкі не ўмелі спяваць.

І вось аднойчы сабраліся птушкі і пачалі размяркоўваць паміж сабою песні. Кожная з іх хацела атрымаць самую прыгожую.

— Мне хацелася б мець самую пяшчотную песню — сказала галубка.

Зязюля папрасіла, каб ёй далі што-небудзь адменнае.

Толькі шэры салавей адзінока сядзеў і сціпла маўчаў.

«Няўжо мне нічога не пакінуць? — думаў ён. — Мая жонка так любіць музыку!..»

Дзяцел у гэты час аглядаў і лячыў бярозкі ў лесе. Вечарам ён скончыў свой абход, прыляцеў на сходку і папрасіў.

— Дайце мне, калі ласка прыгожую песню. Я заўсёды буду вітаць ёю ўсход сонца.

Яму далі песню. Самую доўгую і самую прыгожую. Але раптам ён заўважыў салаўя.

— А якую песню табе далі? — спытаў дзяцел. — Праспявай яе мне, калі ласка.

— У яго няма песні! — хорам закрычалі птушкі. — Ён нічога не прасіў.

Шкада стала дзятлу салаўя, і ён аддаў яму сваю песню — самую доўгую і самую прыгожую.

# АБ ГУРТКУ АМАЛЬ УСЁ

(Працяг са стар. 3)

гэта не ўдалося. Спробы сфармулявання заданняў для гуртка канчаліся на агульных сцверджаннях аб арганізаванні экскурсій, аб чытанні кніжак мясцовай бібліятэкі і г.д. Справы гэта дробязныя і не патрабуюць ані пісання пратаколаў, ані сістэматычных сходаў, ані трохасабовага праўлення.

### 3. ГІСТОРЫЯ ГУРТКА

Гісторыя гуртка коціцца прыблізна так:

Прыязджае ў вёску X прадстаўнік нейкай інстанцыі БГКТ (назавем яго: інструктар. № 1), робіць сход сялян, пераважна моладзі, тлумачыць сёе-тое аб таварыстве, робіць пэўныя абяцанні і прапануе, каб прысутныя падпісалі дэкларацыі таварыства. Частка сабраных падпісвае, пасля чаго адбываюцца выбары праўлення. Інструктар № 1 ад'язджае ў горад, а «члены гуртка» хутка забываюць аб такой дробязі ў іх жыцці, як успамянуты сход БГКТ.

Пасля 1—2 гадоў у вёсцу X прыязджае новы прадстаўнік БГКТ (назавем яго інструктарам № 2). Склікае сход, на які найчасцей прыходзяць зусім іншыя людзі (папярэднія «члены гуртка» паспелі ўжо выехаць з вёскі, пажаніцца, ці наогул разлянівіліся і перасталі хадзіць на сходы). Інструктар № 2 робіць з імі ўсё тое, што рабіў інструктар № 1 і ўсё ідзе ад пачатку.

Такім чынам гурток БГКТ знаходзіцца ў вечнай стадыі ўзнікнення, распачынання сваёй дзейнасці.

### 4. ВЫВАДЫ

Пакрыўдзіўся б я вельмі на таго, хто б на падставе сказанага хацеў меркаваць, што не дацэньваю дасягненняў таварыства на працягу дзесяцігоддзя яго існавання. Дасягненні гэтыя вялікія і бясспрэчныя. Дасягненні гэтыя, гэта перад усім выдавецкая дзейнасць БГКТ, арганізаванне і падтрымка мастацкага руху, лектарская дзейнасць, дзейнасць эстрады «Лявоніха», дапамога асветным уладам і г.д. Справа аднак у тым, што дасягненняў гэтых таварыства дабілася не праз гурткі БГКТ і не праз гурткі БГКТ пашырыла свой уплыў на вёску. Фармаваўся гэты ўплыў і развівалася гэтая дзейнасць перад усім праз працу актывістаў і дзеячаў таварыства з **цэлым грамадствам паасобных вёсак,** а не з гурткамі БГКТ. На маю думку дасягненні таварыства былі б яшчэ большымі, каб праз 10 гадоў не вісела над ім Дэмаклесавым мячом праблема не да развязання: «як зактывізаваць гурткі БГКТ?» І таму менавіта асмелюся скласці пад развагу ўлад і актыву БГКТ наступныя прапановы.

### 5. ПРАПАНОВЫ

— Больш заняцца тымі нешматлікімі гурткамі БГКТ, якія сапраўды праяўляюць нейкую дзейнасць, дазваляючы адначасова «развязацца» тым гурткам, якія існуюць толькі ў паперах аддзелаў БГКТ.

— Больш заняцца сапраўднымі маладзёжнымі калектывамі, як мастацкія гурткі, гурткі самаадукацыі і г.д.

— Выпрацоўваць формы калектыўнага членства БГКТ цэлых вёсак, а калі гэта немагчыма — дзейнічаючых у гэтых вёсках устаноў (ГС-аў, сельскагаспадарчых гурткоў і іншых).

— Выпрацоўваць формы індывідуальнага членства БГКТ, прычым член такі ўплачваў бы на конт таварыства акрэсленую гадавую складчыну і атрымоўваў бы ад таварыства ўсе яго выданні з «Нівою» ўключна.

**УЛ. ПАЎЛЮЧУК**

## Яшчэ аб жаночым конкурсе

Мы інфармавалі нашых жанчын аб іх чытальніцкім конкурсе. Сёння далейшыя інфармацыі: у кожным павеце Беластоцкага ваяводства ўжо працуюць павятовыя камітэты, пакліканыя з прадстаўнікоў розных арганізацый — саўдзельнікаў конкурсу.

Арганізатары апрацавалі спісак кніжак, з якіх кожны ўдзельнік у першым этапе павінен прачытаць дзве, і ў другім дзве. Усіх кніжак з санітарнай асветы ёсць 25, а з выхавання 16. А вось конкурсныя тэмы з санітарнай асветы: асабістая гігіена, як пазбягаць хвароб і апекавацца хворым у хаце, гігіена харчавання, псіхічнае здароўе, барацьба з алкагалізмам. З выхавання наступныя: першыя гады дзіцяці, дзіця ў дашкольным узросце, дзіця ў школьным узросце, вясковае дзіця, сучасная сям'я.

Як бачым, тэматыка конкурсу як найбольш на часе. Прытым сама думка арганізавання такога роду чытальніцкага конкурсу заслугоўвае на вялікае брава. (вл)



Фота з «Мужа і жонкі». Юстыся — Лідзія Максымовіч і Альфрэд — яе каханак, Аляксандр Іванец.

**У тэатры імя А. Вянгеркі**

## Муж і жонка

Адвечная тэма для трагедый і камедый. Аляксандр Фрэдра выкарыстаў яе ў другі спосаб. Камедыю паставіў Беластоцкі тэатр. Пяць асоб, якія выступаюць у п'есе — новыя акцёры ў нашым тэатры.

Варта пабачыць. Беластоцкі тэатр у сваёй гісторыі не раз вяртаўся да Фрэдры. Былі пастаўлены дзве найбольшыя яго камедыі ўжо ў 60 гадах: «Паненскія шлюбы» — 1963 і «Зэмста» — 1965 г. (вл)

## Дзесяты нацыянальны семінар

Ён у бягучым годзе адбыўся ў Гайнаўцы і Белавежы. Арганізатары — Міністэрства культуры і мастацтва і Аддзел культуры Прэз. ВРН у Беластоку справіліся надзвычай добра. Значна горш было са спрэчкамі з жывым удзелам у працах семінара яго ўдзельнікаў.

Уводны даклад меў дырэктар Чэслаў Калужны, які культурна - асветную працу паставіў у спалучэнні з сучаснасцю. Яна не можаісці сама сабой. Яна неадлучная частка агульнага грамадска - эканамічнага жыцця. Паказаў таксама вялікія рэзервы ў дагэтуляшнім стане — рэзервы і ў людзях, і ў тэхнічных прыладах. (вл)

## Грошы 1000-годдзя

За 6 год (1.I.1959 — 31.VII.1965) сабрана на Беласточчыне 215 мільярдаў, 855 мільёнаў зл. на будову школ Тысячагоддзя. За іх збудавана 30 школ-помнікаў Тысячагоддзя і 3 інтэрнаты. У гэтым: 27 пачатковых, 2 ліцэі, 1 тэхнікум, 2 інтэрнаты для агульнаадукацыйных ліцэяў, 1 інтэрнат для тэхнікума.

У будове ёсць 5 школ пачатковых, 1 тэхнікум, 1 агульнаадукацыйны ліцэй, 1 настаўніцкая студыя, 1 інтэрнат, 1 крыты басейн для плавання. (вл)

# ПОМАЧ КАМУ І... САБЕ

Памятаю, калісьці ў школе мы, члены ЛьПЖ, бегалі з кабэкаэсамі на палігон страляць. Былі гэта вялікія эмоцыі.

Цяпер некалі папулярны ЛьПЖ ператворана ў так званую Лігу абароны краіны. Інакш кажучы, называецца яна ў скарачэнні — ЛОК.

Заданнем ЛОК-у з'яўляецца не толькі папулярызацыя ідэі абароназдольнасці нашага народа. ЛОК адыгрывае надта карысную ролю ў тэхнічным прагрэсе, перш за ўсё нашай вёскі. Далёка не шукаючы, мой бацька, стары гаспадар, дзякуючы ЛОК-аўскаму курсу набыў права язды матацыклам. А ў Беластоку гарадская арганізацыя ЛОК-у наладзіла тэлевізійны курс, пасля якога многія знайшлі сабе добрую працу ў рамонтных майстэрнях. Штодзень шмат народу купляе тэлевізары, але штодзень таксама шмат тэлевізараў псуецца. Патрэбны спецыялісты.

ЛОК пры супрацоўніцтве з Беластоцкім прадпрыемствам электрыфікацыі сельскай гаспадаркі арганізоўвае курсы ў новаэлектрыфікаваных вёсках. Вельмі добра, калі людзі вучацца разумець тайны электрычнай інсталяцыі ў хаце, вучацца абслугі электрычных матораў пры малатарні. Большасць няшчасных выпадкаў — гэта вынік няўмеласці, нефаховасці.

У гэтым месцы проста сама напрошваецца ідэя навязання сувязі паміж гурткамі БГКТ і органамі ЛОК, якія не скупяцца памагчы ў любой тэхнічнай справе. Гурток БГКТ павінен жыць справамі вёскі, не павінен цікавіцца толькі аматарскім спектаклем. Інакш яго аўтарытэт заўсёды будзе абмежаваны, а ўплыў на жыццё вёскі невялікі — даволі такі ніякаваты.

Не адзін малады хлопец марыць быць шафёрам. За апошнія два гады дзякуючы ЛОК-у закончыла шафёрскія курсы 380 асоб. Аднак не знайшлося на гэтых курсах ніводнай асобы з паветаў заселеных беларусамі. А шафёрскія курсы на аматарскае права язды III і IV катэгорыі закончыла на Бельшчыне ўсяго 23 асобы, на Гайнаўшчыне 240 асоб, а на Сакольшчыне 48 асоб атрымала аматарскае права язды IV катэгорыі. З Дуброўскага, Сямяціцкага і Беластоцкага паветаў за апошнія два гады ніхто нічога не закончыў. Здавалася б, найлепш ёсць на Гайнаўшчыне, але калі параўнаць яе з іншымі паветамі дык гэтая лічба 240 курсантаў акажацца жаласлівай. Напрыклад, у Сувальскім павеце закончыла падобныя курсы 2.565 асоб, у суседнім Аўгустоўскім павеце — 1.698 асоб і т.п.

ЛОК-у патрэбна дапамагчы, патрэбна з ім актыўна супрацоўнічаць на карысць нашай вёскі. Аб тым, наколькі гэта патрэбнае, пераканаўся ўжо Мілейчыцкі аддзел БГКТ, які ў мінулыя гады супольна наладзіў два ўдачлівыя курсы, здаецца, у самых Мілейчыцах і ў Клюковічах ці Тымянцы...

ЛОК характарызуецца атракцыйнымі формамі дзейнасці — адбываюцца багатыя імпрэзы, турыстычныя экскурсіі, мотарэйды з узнагародамі, сустрэчы з вайсковымі, з героямі вайны, цікавыя ваенныя паказы; арганізоўваюцца майстэрні мадэляў і т.п. Аб зацікаўленні людзей гэтымі справамі сведчыць факт, што арганізацыя ЛОК на Беласточчыне заняла першае месца ў Польшчы ў чытальніцкім конкурсе — «Пяро і карабін». У гэтым конкурсе прыняло ўдзел агулам 41.273 чытачоў, у тым ліку з Беласточчыны аж 10.611 чытачоў. Найбольш спадабалася чытачам кніжка «Барвы валькі» ген. Мечыслава Мочара; затым — «Луны в Бешчадах» Яна Гергарда, «Скомпані в огню» Вайцеха Жукроўскага.

Значыць, усе моцна цікавяцца дзейнасцю ЛОК. Аднак, скажам, моцны Гайнаўскі аддзел БГКТ не падумаў навязаць з Лігай трывалага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі. Трэба ў гэтым месцы сказаць, што дзейнасць ЛОК у беларускім асяроддзі надта слабая, а найслабейшая, менавіта, у Гайнаўскім павеце. Згуртаваны мясцовы беларускі актыў мог бы правесці шмат карыснай ЛОК-аўскай работы, якая наблізіла б непасрэдна да ЛОК-у не толькі хмары ўсяго цікавай моладзі. Такая ўзаемная работа з ЛОК значна аблегчыла б і самую дзейнасць БГКТ, якая часта знаходзіцца ў аматарска-артыстычным тупіку.

На вуха актывістам скажу, што ЛОК не чакае дарэмшчыны ад БГКТ з той простай прычыны, што яго матэрыяльна-тэхнічныя магчымасці куды большыя і больш дасканалыя. Не хапае толькі арганізатараў і... патрэбнага зацікаўлення ЛОК-ам з боку мясцовых улад і арганізацый, у тым ліку БГКТ перад усім.

Пішу гэтыя словы, як энтузіяст ЛОК-у і член БГКТ. Толькі мой энтузіязм лёгкі да рэалізацыі, бо жыву я не ў заглохлай вёсцы, але амаль па суседску з клубам ЛОК...

**САКРАТ ЯНОВІЧ**



Уязджаючы да Стараберазова кідаецца ў вочы прыгожая крама пабудаваная пры актыўнай дапамозе стараберазоўскіх гаспадароў, фота — с.я.







## Гісторыя душы

Жыў Дзімітр, як чалавек. На гаспадарцы не пацеў. Потым, ці то надакучыла яму гаспадарка, ці то зусім астачарцела, узяў Дзімітры ды памёр.

Услужлівыя суседзі няслі труну, калі душа Дзімітра сядзела на хмарцы і глядзела на хаванне. — Стараюцца суседцы, на памінках узнагародзяць сябе і жывоцік свой за працу, — прашаптала душа і паляцела бліжэй да цёплага сонца.

У райскім гультайстве прамінуў месяц, калі душа Дзімітра пастанавіла адведаць зямлю і пераканацца, як сябры і блізкія плачуць па ім, шкадуюць.

У буфеце Сцяпан папіваючы піва казаў свайму субяседніку:

— Выпілі мы з Дзімітрам з дзесяць кадушак, але піва не дадало яму розуму. Пусты быў чалавек як пузыр з мыла і так жа лопнуў.

Душа пачуўшы такое падумала: — Свіння! За піва заўсёды плаціў я.

Душа паляцела да грамадскай рады, а там бухгалтар кажа старшыні:

— Накруціў бублікаў, Дзімітр, падаткаў не папаціў на час, і знік навечную. Цяпер папатанцуем, пакуль сцягнем даўгі падатковыя, хай яму пуста будзе на тамтым свеце.

Душа падумала з крыўдаю:

— Лысы асёл, грошы яму больш вартыя чым жыццё чалавека.

Душа паляцела па-над пісьманосцам, як разам з жонкаю капаўся ў агародзе. Яна дапытвалася мужыка:

— А Дзімітрысе носіш газеты?

— Нашу. Учора дала пяць яйкаў.

Жонка пашкадавала мужыка:

— Цяжкая ў цябе прапа, дзень у дзень ходзіш па пятнаццаць вёрст да Дзімітрыхі, а Дзімітр быў недарэкаю. Бывала, павіншуе цябе з Калядою, а чаркі не паставіць.

— Трасцу табе ўбок, а не чарку, — вышаптала злосная душа і паляцела да роднай хаты. Усеўшыся на аканіцы, душа заглянула ў акно. У пакоі сядзела суседка Агата, а жонка Дзімітра штосьці вязала на дратах.

— Плачаш яшчэ па ім? — дапытвалася Агата.

— Чаго плакаць, жыву спакойна. Цяпер сын гаспадарыць, дай Бог так кожнаму. З таргу прывозіць грошы, а Дзімітр заўсёды прапіваў нічога не прывозіў. Вясною новы хлеў паставім, трэцюю кароўку дакупім, завядзем пчолы. Дзімітр глядзеў адным вокам на гаспадарку, а другім на чарку, а сынок гаспадарыць з рахункамі ў руках.

— Каб цябе халера ўзяла, — закіпела душа і паляцела ў неба.

Прысеўшы каля другой душы, душа Дзімітра расказала аб сваім падарожжы на зямлю.

— Ну, ну, — сказала другая душа. — На плач і добрае слова трэба заслужыць, але многім пры жыцці не хапае на гэта часу.

— Я не думала, што і ты такая дурная, — зазлавала душа Дзімітра і паляцела на дажджавую хмару, каб хаця вады папіць уволю.

Дзядзька Лявон




— Сёлета ў школе цёпла будзе: сын старшыні ў першы клас пайшоў.

### НЕ ПАДОБНЫ

— Як толькі я цябе ўбачу, мне адразу ж успамінаецца Кавальскі.

— Дык я ж зусім на яго не падобны.

— Гэта праўда, толькі ён таксама вінаваты мне пяцьсот злотых.

### ЗАБЫЎ

Суддзя: — На якой падставе вы цвердзіце, што скінулі жонку з чацвёртага паверха па рассеянасці?

Абвінавачаны: — Раней мы жылі на першым, і я забыў, што мы пераехалі.

### БЫВАЕ І ТАК

Настаўнік звярнуўся да вучня::

— А цяпер рашыце, напрыклад, такую задачу: ідучы ў школу я знайшоў тры злотых, ды і ў кішэні было два злотых. Колькі грошай у маёй кішэні?

— Іван Пятровіч! — усклікнуў узрадаваны вучань. — Гэта ж я сёння згубіў тры злотых. Ай, як добра, што вы іх знайшлі!




■ Кажуць што ў Коматаўцах адбыўся чын: усе як адзін выламалі брукаваную вуліцу і зрабілі з яе тапеліцу. Спяшаліся моцна, каб паспець пад асеннія дажджы.

■ Кажуць, што ялоўскі аграном дабіўся кары арышту для тых, хто не палоў свайго поля. Арыштанцкая пасцель будзе высцелена сухім чартапалохам.

■ Кажуць, што гарадоцкі ветэрынар вядзе тайныя перагаворы з быдлячымі знахарамі. Знахары, свядомыя сваёй сілы, дамагаюцца безагаворачнай капітуляцыі ветэрынара.




Калі мне гавораць аб кім-небудзь, што ён добры чалавек, я заўсёды пытаю: «А для каго?»

### ВІНАВАЙЦЫ

«Паважанае тэлебачанне! — піша ў студыю засмучаны бацька. — Па вашай віне мае дзеці перасталі класціся спаць своечасова. Таму, будзьце ласкавы, зрабіце хаця б так, каб своечасова ўставалі, і арганізуйце перадачы на 7 гадзін раніцы».

### РАДАСЦЬ БАЦЬКІ

Бацька сыну даў гарэлкі,
Сам стаіць і дзівіцца:
«Паглядзіце колькі выпіў —
Нават і не скрывіцца!»

**Васіль Юрэвіч**

## УСЯЧЫНА



**ШКОЛА Ў 2000 ГОДЗЕ**

Перад вамі фота мадэлі школы, якую некалькіх вядомых архітэктараў прапануюць пабудаваць у канцы нашага тысячагоддзя.

КУРЁЗЫ

## Самы шчаслівы мужчына

Італьянскаму рыцару Гідарэла Гідарэлі, які загінуў у паядынку ў 1501 годзе, і ў галаву не прышло б, што пасля чатырох стагоддзяў яго імя станецца вядомым далёка за межамі Італіі: пры жыцці ён спецыяльных подзвігаў не зрабіў. Пасля смерці Гідарэлі па заказу яго жонкі Бенедзеты скульптар Туліа Лабардзі зрабіў статую рыцара, якая дасюль знаходзіцца ў музеі Акадэміі мастацтва горада Равены.

Навокал гэтай статуі і ўзнікла легенда. Каменнага Гідарэлі ахрысцілі самым шчаслівым у свеце мужчынам. Дзеля яго ў Равену імкнуцца дзяўчаты і жанчыны ўсіх узростаў. Ходзіць павер'е, што калі статую моцна пацалаваць у губы, гэта прынясе мужа і... сямейнае шчасце. У Равену едуць госці з іншых краін. Гавораць, што каменны рыцар ужо атрымаў не менш трох мільёнаў пацалункаў, іншыя называюць большую лічбу. Але ў адным сумнявацца не даводзіцца: жанчыны цалуюць статую шчыра.

Пад вечар твар стойкага рыцара прыкметна ружавее... ад губной памады, якую стораж музея штодзённа змывае спіртным растворам.

### АКЕНЦА ДУМАК

Нямногія ведаюць, як многа трэба ведаць для таго, каб ведаць, як мала мы ведаем.

**Арабская мудрасць**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Н. Н. з Меляшкоў, Беластоцкага павета, змяшчаем рускую песню:

## Я всегда с тобой

Слова Я. Халецкого — Музыка В. Мурадели

Не грусти,
Не печалься о встрече,
Я вернусь
В город нашей любви.
Тихой песней
В такой же вот вечер
Постучу я
Снова в окна твои.

Где б ты не был, друг мой,
Друг мой самый большой
Я всегда с тобой!

Не грусти,
Много раз будем вместе
Мы встречать
Золотую зарю.
В добрый вечер
Сердечную песню
Вместе с сердцем
Я тебе подарю.

Где б ты не был, друг мой,
Друг мой самый большой,
Я всегда с тобой!